Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр.

№ 4 (6) Вільня, 18 Ліпня 1934 г. Год II

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Соцыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях" выходзіць раз у месяц, кашт уе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр.
Цана абвестак паводле ўмовы.

## АБАВЯЗКІ БЕЛАРУСКАГА НАЦ.-СОЦЫЯЛІСТА

**Б.Н.С.** Дабро сваей Нацыі і яе працоўных сяброў ставіць перад дабром і карысьцяй асабістай; знае свае мэты і шляхі да іх; мае цьвёрдыя пераконаньні, ўмее за іх змагацца і пашырае іх сярэд сяброў сваей Нацыі.

**Б.Н.С.** Павінен быць энэргічным, вытрывалым, працавітым і адважным, павінен працаваць над сабой у кірунку выпрабленьня ўсіх добрых прыкметаў характару і папаўненьня сваей веды, павінен быць карным і здысцыплінаваным сябрам сваей арганізацыі.

**Б.Н.С.** Пашырае свае думкі словам і пярэм, дзе толькі дасца, падтрымлівае сваю часопісь і гуртуе каля сябе сваіх аднадумцаў на падставе вернай сяброўскай дружбы.

**Б.Н.С.** Уважае мову за адну з галаўнейшых адзнакаў нацыі, дзеля гэтага паслугоўваецца беларускай мовою ўсюды, дзе яна зразумелая, навет у зносінах з чужымі адміністрацыйнымі ўладамі на Беларусі, у пісьмах, на вуліцы, у магазыне і г. п.; пагарджае тымі „дзеячамі", якія ў хаце да сямьі не гавораць пабеларуску і кляйміць іх перад грамадзкай апініяй.

**Б.Н.С.** Усьведамляе якія народы і якія клясы жывуць эксплёатацыяй беларускага сялянска-работніцкага народу; выяўляе нэгатыўную ў гэтым кірунку ролю жыдоў і паноў на нашых землях.

**Б.Н.С.** Зьяўляецца праціўнікам мяшаных жанімстваў, дзе адной стараной ёсьць асоба, належачая да пануючай нацыі і, гэтым самым, пагражаючая, у сучасных абставінах, вынарадаўленьнем будучага пакаленьня.

**Б.Н.С.** Пераконвае кожнага, што матарыяльны дабрабыт і духовы развой працоўных беларусаў залежыць ад вызваленьня Беларускай Нацыі ад палітычнага і эканамічнага паняволеньня.

**Б.Н.С.** Пры кожнай аказыі ўсьведамляе ў беларускасьці тутэйшых „палякоў" і „рускіх", пачынаючы ад тых, з якімі спатыкаецца ў штодзенным жыцьці; даказвае ім іхняе рэнэгацтва ў стасунку да беларускага народу, з якога паходзяць.

**Б.Н.С.** Выбірае, ў меру магчымасьці, такую працу ў жыцьці, каб быць якнайменей залежным ад чужога дзяржаўнага апарату і магчы больш удзяляцца грамадзкай працы для дабра сваей нацыі і яе працоўных сяброў.

**Б.Н.С.** Разумее сілу арганізованага грамадзянства, дзеля гэтага ён прызнае і сумленна выконвае свае грамадзкія абавязкі і бязхістаньня паддаецца дысцыпліне сваей арганізацыі.

**Б.Н.С.** Змагаецца з усімі варожымі для Беларусаў сіламі, дэмаскуе фалш камуністаў, калі яны паслугоўваюцца нацыянальнымі лёзунгамі ведаючы, што яны толькі выкарыстоўваюць гэтыя лёзунгі для сваіх тактычных мэтаў.

**Б.Н.С.** Памятае, што касьцёл і царква на Беларусі—гэта кузьні полёнізацыі і русыфікацыі, а ксяндзы і папы, за выняткам некалькіх беларускіх, абязсіленых біскупамі — прапагатары нашай нацыянальнай цемры і палітычна-грамадзкіх забабонаў. Дзеля гэтага Б.Н.С. ня ходзіць да „польскага" касьцёла і „рускай" царквы, не дае ні граша ксяндзу і папу ня мае з імі таварыска-грамадзкіх зносінаў датуль, пакуль яны не перастануць быць ворагамі беларускай нацыянальнай справы.

**Б.Н.С.** Популярызуе фізычнае выхаваньне; зьяўляецца староннікам спорту і гімнастыкі, як дзейнікаў, што гартуюць і ўзмацняюць цела і дух і даюць запал да змаганьня і спаборніцтва, бярэ ўдзел у спартовых імпрэзах і арганізуе іх.

Дзеля таго, што ў сучасным палажэньні няма магчымасьці мець сваей спартовай арганізацыі, з прычын ад нас незалежных, Б.Н.С. можа належаць да чужых, не варожых беларусам, спартовых арганізацыяў, каб там вучыцца і гартавацца і, у лепшай для нас будучыні, тварыць свае ўласныя спартовыя арганізацыі.

---

## Гуртуйцеся каля сваей часопісі

Наш орган робіць сваё. Ужо цяпер мы маем бязсумліўныя доказы агульнага зацікаўленьня беларускага нацыянальна настроенага грамадзянства ідэолёгіяй „Новага Шляху". Дзеля гэтага мы моцна пераканаюы, што стаім на адпаведным грунце, карысным Беларускай Нацыі і яе працоўным сябром

Зацікаўленьне і настроі беларускай нацыянальна сьведамай масы ёсьць тэрмомэтрам, паказываючым, што мы ідзём па здаровай беларускай дарозе, каторую разам з беларускімі працоўнымі масамі дойдзём да мэты.

Праўда, не бракуе і тых, што капаюць равы на простым беларускім шляху. Гэта тыя, што пераняліся камуністычна—жыдоўскай справай і хацелі-б адвярнуць увагу беларускіх працоўных масаў ад яго ўласных інтарэсаў і скіраваць на дарогу барацьбы за чужыя, далёкія ім справы.

Газэта наша будзе і надалей працірацы беларусам вочы, каб яны ўбачылі і маглі адрожніць інтарэсы беларускага народу ад спраў яму далёкіх.

Каб мы маглі выдаваць больш рэгулярна і часьцей—мусім мець яшчэ большае падтрыманьне ўсяго спачуваючага нам грамадзянства.

Часьцейшы выхад „Новага Шляху" павінен быць агульнай справай усіх спрыяючых нам.

Ўсе павінны памагаць—хто матарыяльна, хто пяром, бяручыся шчыра і сумленна за агульную Беларускую справу.

Да часу абформленьня нашай групы ў партыю, мы будзем лічыць чыннымі нашымі сябрамі тых, хто будзе згуртаваны каля нашай часопісі.

---

## Дзе шукаць прычыны таго, што сталася?

Тое, што творыцца ў Савецкай Беларусі заслугоўвае на самую вялікую ўвагу.

Ў працягу некалькіх апошніх год савецкая ўлада вядзе сыстэматычны паход процi нацыянальна-сьведамага беларускага грамадзянства, абвясьціўшы найвыдатнейшых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі контр-рэвалюцыянерамі і ворагамі народу. Лёсік, Некрашэвіч, Цьвікевіч, Ластоўскі, Савіцкі, а за імі цэлы рад іншых беларускіх вучоных, пісьменнікаў і кооперататараў, пашлі на Салоўкі, у Сібір, пасаджаны ў вастрогі.

Першы Старшыня Беларускай Акадэміі Навук праф. Ігнатоўскі ў 1930 г. быў замардаваны па загаду Менскай чрэзвычайкі Кагановічам.

Гэтак ад жыдоўскай рукі загінула выдатная беларуская сіла.

Тысячы студэнтаў, вучыцялёў, вясковай інтэлігенцыі і нацыянальна-сьвядомых сялян апынуліся ў концэнтрацыйных лагерах і на прымусовых работах.

Усе гэтыя рэпрэсыі праводзяцца пад плашчом барацьбы з „нац-дэмаўшчынай" і дзякуючы ім беларускія навуковыя і культурна-асьветныя пляцоўкі засталіся абяскроўленымі.

Паскольні нацыянальная сьведамасьць і беларуская культура пачалі пранікаць на вёску—камуністычная ўлада і тут прыступіла да нішчэньня элемэнтарных праяваў нацыянальнага адраджэньня, маскуючы гэта барацьбою з контр-рэвалюцыяю і кулацтвам.

Мімаволі паўстае пытаньне— ці запраўды ўсе арыштаваныя, высланыя і растрэляныя беларусы былі такімі вялікімі „ворагамі народу" і контр-рэвалюцыянерамі", каб іх трэба было ўнешкоджваць у гэтакі спосаб?

Моцна ў гэтым сумляваемся. Дакладна вядома, напрыклад, што частка з іх належала да чынных сяброў кам. партыі, брала ўдзел у бальшавіцкім перавароце і цьвёрда верыла ў навуку Маркса і Леніна, як і кожны прававерны камуніст. Другая частка, будучы беспартыйнаю сьлепа выконвала ўсе загады камуністычнай улады, стараючыся ня страціць кавалак чорнай савецкай скарынкі, за якую працавала. Прышыбленая і прыдушаная савецкім тэррорам, пазбаўленая сваёй уласнай волі і перашоўшая на становішча савецкага парыя — яна найменш думала пра нейкія іншыя справы, акрамя тых, на каторых сядзела.

Калі яшчэ маглі быць некаторыя сумлівы адносна тых людзей, каторых у Саветах называюць нацыянал-дэмакратамі і каторых саджаюць у турмы мо' на нейкіх падставах, знаходзючыхся ў кольлізіі з савецкаю конституцыяю, то апошнія арышты грамадаўцаў і змаганцаў выклікалі вялікае зьдзіўленьне навет сярод „камунізуючых".

У многіх паўстае зусім слушнае пераконаньне, што прычыну як гэтых арыштаў, так і папярэдніх трэба шукаць глыбей і што немагчыма затрымацца на агульніковым тлумачэньні гэтага зьявішча, якое даецца нам беларускаю прэсаю.

З грамадаўцаў, як ведама, арыштавалі П. Валошына, П. Мятлу, М. Бурсэвіча і С. Рак-Міхайлоўскага,—словам усіх выехаўшых павадыроў Грамады за выняткам выслужыўшага Савецкую ласку Б. Тарашкевіча.

Са Змаганцаў за вастрожнымі кратамі апынуліся Дварчанін, Валынец, Гаўрылік і цэлы рад іншых асоб, якія вялі на нашых землях чыста камуністычную работу і якія былі ў поўным значэньні гэтага слова рэвалюцыянерамі-канспіратарамі і камуністамі, адбыўшымі тут доўгія годы катаржнай турмы.

Station: Становуча трэба сьцьвердзіць, што ўсе грамадаўцы і змаганцы, каторыя выехалі ў Саветы, былі шчырымі выканаўцамі палітыкі камінтэрну і праводзілі ў жыцьцё толькі тое, што ім загадвалася камуністычнымі ўладамі. Зрэштаю, самы факт іхняга выезду ў Саветы, захаваньне на судзе і г. п. рэчы зьяўляюцца найлепшым гэтаму доказам.

Зашто-ж, запраўды, арыштавалі гэтых людзей?

Ці-ж можна паверыць, што, напрыклад, Валошын і М. Бурсэвіч, ня маючыя навет 1 квадратнага мэтра сваёй уласнай зямлі, хацелі вярнуць фабрыкі капіталістам, а зямлю абшарнікам, у чым іх абвінавачваюць менскія чэкісты?

Або што гэта за абвінавачаньне, якое прад'яўлена Дварчаніну, што ён быў некалісь афіцэрам расейскай арміі.

Чаму гэта толькі цяпер савецкія чэкісты заўважылі гэтакую „контр-рэвалюцыйну" акалічнасьць і зусім не зьвярталі на яе ўвагі тады, калі гэты самы Дварчанін, выконваючы загады камуністычнай партыі, на кірмашных мітынгах падстаўляў сваю галаву пад нагайкі і кольбы?

Ці можна паверыць, нарэшце, што гэтыя людзі ўтрымлівалі некую лучнасьць з п. А. Луцкевічам, з якім яны сарвалі яшчэ падчас працэсу грамады?

Праўда, гэты апошні за шмат разводзіў у полёнофільскіх газэтах, што ніхто іншы, а толькі ён зьяўляецца патрыярхам нац.-дэмакратычнага руху ў Менску, але гэтаму ніхто не паверыў. Усе добра ведалі, што пахвальба гэта яму была патрэбна выключна для палітычнай спэкуляцыі.

Запраўды, ад падобных абвінавачаньняў можна звар'яцець, што і сталася, напрыклад, з Валынцам, аб чым перадавалі нашы газэты і навет савецкае радыё.

Па нашаму глыбокаму пераконаньню як гэтыя абвінавачаньні, так і іншыя, пра каторыя даходзяць да нас чуткі, зьяўляюцца звычайным ашуканствам.

Камуністы сфабрыкавалі іх толькі для таго, каб адвярнуць сымпатыі народных масаў ад б. грамадаўцаў і змаганцаў, прыехаўшых у Саветы як „героі" і „мучанікі".

Зразумелая рэч, што перад тым як іх арыштаваць, Савецкія ўлады змушаны былі моцна над гэтым задумацца.. І ня гледзячы на ўсё, верх узяла думка пасадзіць іх за краты, разьвянчаць як герояў, зьмяшаць з балотам і аддаць на зьдзек савецкай чэрні.

Дзіцячым лепетам мы лічым разважаньні некаторых паноў, шукаючых прычыну ўсяму ў „правакацыі" Сталіна.

Прычыну гэтую трэба шукаць у іншай плошчы.

Справа ў тым, што ўсе гэтыя Ігнатоўскія, Лёсікі, Ластоўскія і іншыя „нацыянал-дэмакраты" зьяўляюцца беларускімі інтэлігентамі, палажыўшымі моцныя падставы да разбудовы беларускай культуры.

Гэтая культура пачала пранікаць у гушчу беларускага народу ў выніку чаго нарадзіліся кадры беларускай народнай інтэлігенцыі, якая пастаянна павялічвалася колькасна і ўзмацнялася якасна. Вырастала маладая беларуская грамадзкасьць,

Народ, каторы запраўды спаў вякамі, заварушыўся і выявіў здольнасьці да нацыянальнага адраджэньня.

У меру сваяго ўзмоцненьня беларуская інтэлігенцыя пачала праяўляць правы на кіраўніцтва краем, пачала ўлівацца ў камуністычную партыю і станавіцца на чале беларускіх сялян і рабочых, меўшых да гэтай пары іншых павадыроў — не беларусаў.,

Зразумела, што самы факт нарастаньня беларускіх культурных сілаў і ўваход хаця-ж бы часткі іх у рады кіруючай партыі стаўся вельмі нявыгадным для тых, хто кіраўніцтва краем хацеў-бы затрымаць у сваіх руках і надалей.

Цяпер разгледзім гэную справу з іншага боку.

У Менскім унівэрсытэце яшчэ ў 1928 г. налічвалася 51% жыдоў і толькі 41% беларусоў. З кожным годам колькасьць жыдоўскае моладзі ва ўсіх школах Савецкай Беларусі павялічваецца. Уся яна належыць да камуністычнай партыі і вучыцца для таго, каб заняць у будучыні ўрадовыя і кіруючыя пляцоўкі. Камуністычная партыя і цэнтральны ўрадовы апарат Сав. Беларусі ўжо й цяпер знаходзіцца фактычна ў жыдоўскіх руках, а Чэрвяковы, Галадзеды, Домбалі і іншыя ёсьць толькі шырмаю, за каторую ўкрываюцца жыды.

Камуністы беларусы зручна адсоўваюцца ад улады і калі не саджаюцца ў вастрогі, то здаюцца, як напр. Б. Тарашкевіч, у „навуковыя“ архівы.

Галоўным цэнтрам, маючым усю паўнату ўлады зьяўляецца Паліт.-бюро, поўнасьцю апанаванае жыдамі.

Узяўшы ўсё гэта пад увагу, вельмі лёгка прыйсьці да перакана081ньня, што жыдоўскай частцы камуністычнай партыі зусім непажадана беларуская культура, бо разьвіцьцё яе вядзе да павялічэньня кадраў беларускай інтэлігенцыі.

Сучасным кіруючым колам Савецкай Беларусі, апанаваных жыдамі, беларуская інтэлігенцыя зусім непатрэбна навет і ў тым выпадку, калі-б яна была на ўсе сто працэнтаў камуністычнаю.

З пункту гледжаньня жыдоўскай „рацыі стану“ у Савецкай Беларусі патрэбны тольлі „плебс“ пакорны, паслухмяны і бязвольны, патрэбна стада, бо пастухі ўжо гатовы.

Жыды, спаконь вякоў асеўшыя на беларускіх землях, стараюцца вытварыць там найбольш спрыяючыя для сябе абставіны і яны іх вытвараюць з вялікаю шкодаю для беларускага народу.

Толькі ўзяўшы ўсё гэта пад увагу, можна зразумець запраўдную прычыну, якая прывяла грамадаўцаў і змаганцаў, камуністаў па сваёй працы і пераконаньням, за вастрожныя краты.

На Савецкай Беларусі змагаюцца дзьве сілы: нараджаючаяся беларуская грамадзкасьць і моцна зарганізаванае жыдоўства, якое пасьля рэвалюцыі захапіла палітычную ўладу пры дапамозе камуністычнай партыі.

У гэтай барацьбе беларускае грамадзянства пакуль што разьбіта.

Але мы верым, што гістарычныя падзеі вывядуць, нарэшце, Беларускі народ на шырокі шлях гістарычнага разьвіцьця і ён зьмяце ўсе перашкоды, якія стаяць на гэтым шляху..

Ф. Акінчыц.

# Уздым волі

Калі ўсё ломіцца ўнутры,
Маўкне пабеда веры—
Надзеяй мляўкасьць ты сатры
І ня шукай больш меры

Ў разсудку зломленым тваім
На чыны ўздыму волі.
Змаганьня ў імпаце сваім
Ня мерай ты ніколі.

Сумлівы, трэзвасьць... а пашто?
Каб больш нас брала роспач?!
Хоць чын наш быў-бы нінашто —
У барацьбе ёсьць роскаш.

Маўчыць, ці б'е ў душы журба —
Нам путы трэба скінуць.
Ляпей сьмяротна барацьба,
Чымся ляжачым згінуць.

Дык хай ляціць бадзёры ўздым
Над Краем громам крыкне,
Разьвее ўвесь няволі дым.
Хай вораг ўжо прывыкне

Нас бачыць стойкіх ў барацьбе,
Ня знаўшых болі, страху,
Чужых той жаласнай мальбе
І мляўкасьці, і жаху.

Казлоўтчык.

# Чарговае заданьне

Палітычныя абставіны жыцьця нашага краю ўлажыліся ў такі спосаб, што беларуская інтэлігенцыя ад самага пачатку існаваньня Польшчы сядзіць бяз працы.

Ня будзем уваходзіць у прычыны гэтага сумнага зьявішча, якія, зрэштаю, кожнаму вядомы.

Мусім зазначыць толькі, што прымусовая бясчыннасьць нашай інтэлігенцыі вядзе простым шляхам да заняпаду беларускай справы. Інтэлігенцыя ў пастаці сваіх асьвечаных і нацыянальна-сьведамых колаў была і заўсёды будзе мозгам кожнага народу.

Гэты мозг павінен няўпынна разьвівацца, няўпынна дзеяць і толькі тады ён будзе ў стане нармальна выконваць свае кіраўнічыя функцыі.

Пры існучым палажэньні, калі беларуская інтэлігенцыя, дзякуючы сваёй бясчын-

насьці і агульнай нэндзы, пачынае траціць свае інтэлектуальныя якасьці, — ствараецца вельмі падатны грунт да канчальнай дэмаралізацыі нашага народу, пазбываючагася сваіх прыродных павадыроў.

Мы добра ведаем, што гэтакі стан рэчаў не зьяўляецца прыпадковым, а ўваходзіць у хітра прадуманыя пляны зьнішчэньня Беларускага народу, але мы пакуль ня позна, мусім рашуча праціставіцца гэтаму і шукаць ратунку ад пагражаючай нам пагібелі.

Мы верым, што ратунак гэты мы знойдзем...

Перадусім, трэба каб нашая беспрацоўная інтэлігенцыя, здэзорыентаваная сваімі лжэпавадырамі, пакінула надзеі на нейкія раптоўныя перамены на лепшае, а безадкладна ўзялася за штодзенную працу. У даным выпадку мы маем на ўвазе працу гаспадарчую.

Яе можна павесьці ў коопэратывах і мы бачым, што, напрыклад, украінская інтэлігенцыя пабудавала моцную коопэратыйную сетку і, акрамя ўсяго іншага, вытварыла для сябе варштат жывой і цікавай працы.

Нашы, зах.-беларускія абставіны грамадзкага жыцьця куды горшыя ад украінскіх і таму коопэратыўнае будаўніцтва напатыкае тут вялікія труднасьці, з каторымі ня кожны ў сілах справіцца.

Ніскі культурны ровень грамадзянства, слабая нацыянальная сьведамасьць народных масаў, а ў многіх выпадках адсутнасьць элемэнтарнай чэснасьці з боку арганізатараў коопэратываў, стварылі такія абставіны, калі гэты род дзеяльнасьці знаходзіцца ў нас у першабытнай стадыі разьвіцьця.

Праўда, ня так даўно існаваў у Вільні „Саюз Коопэратываў“, які быў беларускай установай і аб'ёднаваў коопэратывы Зах. Беларусі. Але гэты саюз палякі хітра прылучылі да Варшаўскай цэнтралі „Społem“, якая вядзе ў Зах. Беларусі польскую палітычна — гаспадарчую працу і, як усе іншыя польскія установы, праводзяць палёнізацыю нашага краю, даючы адначасна пасады розным прышэльцам з Польшчы, з крыўдай бязпрацоўнай беларускай інтэлігенцыі. Цяпер беларусам трэба адбудоўваць сваю коопэрацыю нанова.

Ня гледзючы на ўсё мы бачым, аднак, што пры пэўнай энэргіі і працаздольнасьці інтэлігенгных адзінак праца гэта можа даць некія пазытыўныя вынікі,

Але акрамя коопэрацыі ёсьць яшчэ іншыя магчымасьці да стварэньня беларускіх незалежных варштатаў працы.

Маем на ўвазе наагул усякія гандлёвыя і пасярэдніцкія апэрацыі, якія ў нашым краі выконваюцца амаль выключна жыдамі.

Ні для каго ня можа быць сэкрэтам, што ўвесь гандаль і промысел нашага краю апанаваны жыдамі, каторыя маюць з гэтага ўтрыманьне, павялічваючы свой дабрабыт і каторыя, дзякуючы скупленьню ў сваіх руках грашовых капіталаў, займаюць кіруючае становішча ў палітычным і грамадзкім жыцьці.

Вытварыўся такі стан рэчаў, калі беларускай інтэлігенцыі ў сілу гістарычнай неабходнасьці і ў мэтах самазахаваньня канешна патрэбным зьяўляецца заваёўваць ад жыдоў гаспадарчыя пляцоўкі імі захопленыя.

„Сантымэнтаў“ у гэтай справе быць ня можа, а тым болей ня мейсца тут для дэмакратычных і лібэральных разважаньняў на тэмы г. зв. антысэмітызму, каторым нас страшаць камунізуючыя радыкалы і жыды.

Адно з двух: або мусіць згінуць увесь наш нацыянальны актыў, застаючыся ў пастаянным вычаківаньні разьвіцьця сусьветных падзеяў у камуністычным напрамку, або ён мусіць брацца да гаспадарчай працы, пераходзючы ў наступленьне ў адносінах да жыдоўскага капіталу, выпіраючы яго з вякамі насіджаных мейсц.

Што будзе з жыдоўскімі гандлярамі і жыдоўскаю інтэлігенцыяю — гэтае пытаньне павінна нас цікавіць найменей.

Адным словам, вывад у гэтай справе такі: або эканамічнае панаваньне жыдоў, а разам і павялічэньне іхніх палітычных уплываў з адначасным заміраньнем беларускага нацыянальнага жыцьця, або барацьба беларускага грамадзянства за сваё ўласнае існаваньне, барацьба ў мэтах захапленьня ў свае рукі эканамічных пляцовак краю. З чыстым і спакойным сумленьнем мы выбіраем апошняе.

Добра ведаем, што шлях наш цярністы, але верым, што пляновасьць у працы і сьведамасьць сваіх канчальных мэтаў дадуць нам перамогу над эксплёататарамі і ворагамі Беларускага народу. Мы лічым, што там, дзе ёсьць да таго магчымасьць — трэба закладаць коопэратывы. Там, дзе няма да таго адпаведных варункаў — трэба тварыць з невялікай колькасьці сяброў гандлёвыя і промысловыя суполкі.

Няма чаго баяцца абвінавачаньняў з боку камунізуючых элемэнтаў у „эксплёатацыі працоўных“.

Трэба памятаць, што такія абвінавачаньні будуць ісьці выключна з боку „радыкальных“ колаў, кіраваных, як вядома, жыдоўскім гандлёвым і ліхвярскім капіталам.

Трэба ведаць і тое, што гаспадарчая энэргія і ініцыятыва нашага народу сьведама аслабляецца і ўстрымліваецца рознымі правакатарскімі элемэнтамі, маючымі зусім выразнае заданьне працерабіць дарогу для чужацкага гаспадарчага і палітычнага панаваньня.

Не дарма-ж навет малыя вясковыя коопэратывы разбураюцца камуністамі і іхнімі „радыкальнымі“ прыслужнікамі, як арганізацыі затрымліваючыя „поступ рэвалюцыйнай сьведамасьці працоўных“.

Пераацэнка ўсіх лібэральна — дэмакратычных „вартасьцяў“ — вось наш ідэолёгічны лёзунг.

Даволі ашуканства і замыдленьня вачэй!

Пры вытварыўшыхся ўмовах жыцьця, калі наш нацыянальны актыў, на чале са сваёю інтэлігенцыяю — даходзіць да жабрацкай торбы — нам трэба вучыцца гандляваць.

Бяручы пад увагу нашу сумную рэчаістасьць, калі ўсе багацьці краю апынуліся ў руках варажых нам народаў—лічым гэта за сваё баявое заданьне.

Трэба выкаваць такое самае аружжа, якім нас б'юць і гэтым аружжам, паваліўшы працаўніка, заваяваць сабе права на жыцьцё.

У гэтым мы бачым адзіны ратунак у сучасную цяжкую хвіліну.

Полацкі.

# Pryčyny palityčnaha buntu u Niamieččynie

Zachapić uładu ŭ Niamieččynie Hitleru pamahali elementy lewyja i reakcyjnyja. Hetyja apošnija spadziawalisia, što Hitler, wykazywaŭšy bajowyja kličy suproć niesprawiadliwaści Wersalskaha traktatu, pryčynicca da wajny, jakaja, jak i kožnaja wajna, daść karyści kapitalistam, a ŭ wypadku peramohi, wiarnie daŭniejšyja hranicy i manarchiju.

Lewyja koły — spadziawalisia ździejśnieńnia tych sacyjalistyčnych kličaŭ, jakija ahałašywaŭ Hitler.

30.1. 1933 h. nac.-sacyjalistyčnaja rewalucyja zachapiła ŭ Niamieččynie uładu i ŭziałasia za rewalucyjnaje budaŭnictwa „Treciaj Niamieččyny". Hetaje budaŭnictwa, dziakujučy tamu, što nacyjanalna-sacyjalistyčnaja peramoha nie adsunuła całkom ad ułady abšarnikaŭ i kapitalistaŭ — napatykaje roznyja trudnaści.

Niamieckija reakcyjaniery, pradstaŭnikom katorych jošć wicekancler von Papen — tarmaziać ažyćciaŭleńnie rewalucyjnych reformaŭ u ziamielnaj, pramysłowaj, handlowaj haspadarcy i ŭ inšych halinach hramadzkaha žyćcia.

Udzieł reakcyjnych kołaŭ u ŭładzie Hitlera pryčyniŭsia da niezdawaleńnia i fermentu lewych elementaŭ nac.-sacyjalistyčnaj partyi.

Z druhoha boku reakcyjnyja koły taksama bačyli, što Hitler da wajny nie źbirajecca, a naadwarot — dahawarywajecca z susiedziami i nawat z nienawidžanaj Polščaj, i pačynaje chilicca bolš u lewa. Heta wyzwała niezdawaleńnie da Hitlera z boku reakcyi.

Hetaja abšarnicka-kapitalistyčnaja reakcyja, wyčuŭšy niezdawaleńnie lewych elementaŭ nac.-sacyjalistyčnaj partyi, pastanawiła wykarystać jaho dla swaich metaŭ.

Jana spadziawałasia panizić u wačoch masaŭ Hitlera, pazbawić jaho aŭtarytetu i zachapić uładu rukami lewych elementaŭ, haniebna ich ašukiwajučy.

Ale niamieckaja reakcyja była nadta niedalnawidnaj, nia bačyŭšaj słabaści i nonsensu parazumleńnia reakcyjnaha kapitału z lewymi rabočymi z metaj pierawarotu.

Jana tak hłupa dumała zachapić uładu što nawiet nie mahła dać nijakaha kliču dla mas, jakija chacieła wiaści ŭ boj; nia wyjawiła nijakaj dakładnaj nowaj rewalucyjnaj prahramy.

Bunt hety wyhladaŭ na baraćbu za zwyčajnaje aśabistaje zachapleńnie ŭłady, Nawat 30 červienia, u dzień buntu, nia było inšaha kliču, jak „šturmawiki, na wulicu, bo kamardzir i armija proci nas!".

Hitler chutka i enerhična zdušyŭ bunt. Ciap'er jamu zastajecca zdušyć reakcyju. Ad hetaha, jak jon chutka jaje zdušyć i ci zachoča zdušyć, budzie zaležyć los niamieckaj nac.-sacyjalistyčnaj partyi i jaje palityčna—haspadarčaha budaŭnictwa. Siłu-ž zdušeńnia reakcyi Hitler maje. Bo nawiet apracza 2-ch miljonna ha liku „šturmawikoŭ", častka katorych reakcyjaj była zbuntowana, jon maje šmatlikich siabroŭ partyi pad kamandaj Rudolfa Gesa i partyjnyja arhanizacyi: „Front Pracy" pad kamandaj Roberta Leja, „Słužba Pracy" pad kam. pałkoŭnika Hirla, „Hitleroŭskaja Moładź" pad kam. Baldura von Šyracha i 100 tysiačnaja bajawaja arhanizacyja h. zw, „Acharonnyja Stafety" (SS) pad kamandaj samaha Hitlera. Apracza hetaha jošć silnaja administracyja pad kamandaj nac.-sacyjalistyčnaha ministra nutranych spraw Frika, palityčnaja palicyja pad kam. nac. sacyjalista Kurta Daluege i 30-tysiačnaja armija pad kam. nac.-sac. Geringa.

Majučy takija siły i ŭładu ŭ rukach, niamieckaja nac.-sacyjalistyčnaja partyja moža i pawinna zdušyć usiu niamieckuju abšarnicka-kapitalistyčnuju reakcyju taksama, jak zdušyła niadaŭny bunt. Inakš reakcyja nie pierastanie buntawać i abo pabiadzić siłaj, wykarystaŭšy ašukanstwam pracoŭnyja masy, abo pieraciahnie Hitlera na swoj bok, dawioŭšy jaho da zdrady tym sacyjalistyčnym kličam, jakija jon hałasiŭ pierad zachapleńniem ułady.

Ka.

# Źjezd rasiejcaŭ u Wilni

Sioleta ŭ pačatku lipnia adbyŭsia ŭ Wilni źjezd hetak zwanaj „rasiejskaj mienšaści" u Polščy. Na hetym źjeździe rasiejcy prajawili swoj niawolnicki serwilizm u adnosinach da silniejšych i rasiejskaje zachopnictwa ŭ adnosinach da słabiejšych.

U „wiernopaddannych" telehramach, wysłanych źjezdam Panu Prezydentu i niekalkim ministram, zapeŭniwajecca, što kiraŭniki źjezdu buduć pracawać nad „żatieśnienijem uz." łučačych rasiejcaŭ z palakami. (Nia tak daŭno hetych apošnich jany nazywali „miatieżnikami.")

Staršynia „Wilenskaho Ruskaho Obščestwa" pan Krestijanow tak daloka zajšoŭ u serwiliźmie, što swaich-ža bratoŭ ruskich nazwaŭ akupantami: „słowo „Wilna" nakinuli nam akupanty—dołžno być „Wilno"—tłumačyŭ jon na źjeździe.

Nia budziem uwachodzić u toje, jak prawilniej: Wilno ci Wilna, bo panašamu jano Wilnia, ale warta źwiarnuć uwahu na skaz „ruskija akupanty".

Hety skaz adpawiadaje praŭdzie, i ŭ wus-

nach biełarusa, palaka abo litoŭca jon byŭ-by zusim narmalnym, ale ŭ wusnach „istinno rus kaho“ jość trahična—śmiešnym.

Pamima prajawiŭšahasia na źjeździe serwilizmu ŭ bok palakoŭ, adnačasna z hetym zjezd wykazaŭ swajo maskoskaje zachopnictwa adnosna da biełarusaŭ.

Pramoŭcy zaklikali pracawać „в гущах русскаго населенія“, „перед русскімі масамі“... i h. d.

Druhija pramoŭcy iznoŭ tłumačyli dzie jość tyja „ruskija huščy“ „ruskija masy“: „в Пінске масса не знает СРМО. А в этой массе в посьледнее время наблюдается адыход от понятія „тутэйшій“ к русскосьті“... ...„одін за другім перед с'ездом проходят арєдставітелі... Гродна, Баранавіч, начавшых работу в деревнях“, każa sprawazdaŭča źjezdu.

Arhanizatarami i kiraŭnikami źjezdu byli pany Pimonowy, starawiery, pasły z B.B. (baćka sanatar, syn pasoł), wiedamyja ŭ Wilni bahačy kapitalisty, ničoha nia majučyja supolnaha nia tolki z ruskimi masami, jakich u nas niama, ale naohuł z kožnymi pracoŭnymi masami.

My prypaminajem panom rasiejcam, što jany niamajuć čaho šukać u masach Zach-Biełarusi, bo aprača štarawieraŭ i ŭciekačoŭ ad rasiejskaj rewalucyi, emihrantaŭ z S.S.S.R. — inšych maskaloŭ u nas niama. Tym-ža byłym ruskim čynoŭnikam—abrusiełym wychadcam z biełaruskaj prawasłaŭnaj wioski — radzim wiarnucca da swajho biełaruskaha narodu i pracawać u kirunku jaho nacyjanalnaha adradžeńnia.

Škada času i enerhii na rusyfikatarsku rabotu.

Nia zmoh biełarusaŭ abmaskalić praz šmat hadoŭ maskoŭski ŭrad sa swaimi Muraŭjowymi, dyk ciapier kali biełaruski narod prabudziŭsia da nacyjanalnaha i socyjalnaha žyćcia—nijakaja siła jamu ŭžo nia stanie na darozie.

Kožnamu rasiejcu, chacieŭšamu pracawać u kirunku nacyjanalnaha adradžeńnia swajho narodu, radzim jechać u Maskoŭščynu. Tam ciapier jakraz jość nacyjanalny zanipad—pole da pracy wialikaje.

Tut-ža biełaruskija masy kožnamu čužyncu daduć naležny adpor.

Ul.

## Atkrytaje piśmo

**da b. Senatara i wice-staršyni Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu W. W. Bahdanowiča.**

Wysokapawažany hramadzianin Senatar.

Na adbyŭšymsia niadaŭna ŭ Wilni Źjeździe Sajuzu Rasiejskich Mienšaściowych Arhanizacyjaŭ, Wy pryniali čynny ŭdzieł i fihurawali ŭ prezydyjumie jak jaho hanarowy siabra. Fakt hety, z uwahi na charaktar Zjezdu, a takža na rolu, jakuju Wy, hr. Senatar, adyhrywali i adyhrywać nie pierastali ŭ biełaruskim hramadzianstwie, prymušaje mianie, jak Biełarusa i Wašaha daŭniejšaha supracoŭnika na parlamanckim hruncie, zaniać adpawiednaje stanowišča,

Dla nikoha nie źjaŭlajecca sakretam, što, adkinuŭšy staraabradcaŭ i niewialiki lik pryjezdnych b. uradoŭcaŭ, ich patomkaŭ dy emihrantaŭ z hłybi Rasiei—bolšaść uważajučych siabie za Rasiejcaŭ u Zachodniaj Biełarusi źjaŭlajucca ŭ prošłaści wychadcami z prawasłaŭnaj biełaruskaj wioski, jakija kališ na słužbie carskamu ŭradu i pad upływam carkwy, paśpieli hruntoŭna abmaskowicca. U sučasny mament hetyja abmaskoŭlenyja Biełarusy pa krywi i Rasiejcy z prakonańniaŭ, na žal, nia tolki nia bačać patreby wiartacca da mowy i zwyčajaŭ swaich prodkaŭ, ale jašče na stary ład chacieli-b ćwierdzić, što „biełorussy tieže russkije“ i konsekwentna ŭ hetym kirunku prajaŭlać swaju hramadzkuju i palityčnuju dziejnaść.

Rasiejski Źjezd, jaki niadaŭna adbyŭsia pad kiraŭničym udziełam parlamentarystaŭ z BB, u značnaj miery paćwiardziŭ takoje stanowišča „polskich“ Rasiejcaŭ.

U biehu swaich pracaŭ, prajawiŭ jon ahresyŭny nachił u sensie ŭznaŭleńnia rusyfikacyi biełaruskaj wioski a takža mocna padkreśliŭ daloka idučuju ŭhadowaść u toj bok, dzie Rasiejcaŭ nia chočuć pryznawać za roŭnuju ŭ prawoch nacyjanalnuju mienšaść.

Nie ŭwachodziačy ŭ toje, ci Źjezd pad kiraŭnictwam swaich inicyjataraŭ, hodna i wierna adbiwaŭ nastroi i patreby šyrejšych rasiejskich kołaŭ—uważaju što Wy, Wiačasłaŭ Wasiljewič, jak były biełaruski senatar, dwojčy wybrany biełaruskim nasielnictwam, a takža jak wice-staršynia Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu, nie mahli, jak Biełarus, supracoŭničać sa Źjezdam, jakoha zadańniem, pobač sa słušnymi imknieńniami, było pahłyblańnie rusyfikacyi carkoŭnaha i nie carkoŭnaha žyćcia na biełaruskich i ŭkrainskich ziemlach sa škodaj dla adwiečnych žycharoŭ hetych ziemlaŭ.

U suwiazi z hetym wytwarajecca nieabchodnaść, kab Wy, hr. Senatar, wyjawili atkryta, jak nachodzicie mahčymym pahadzić tak supiarečnyja intaresy i da jakoj nacyjanalnaści, u kancy kancoŭ, Wy siabie zaličajecie?

Adkaz na hetyja pytańni, jak mnie zdajecca, zacikawić pawinien nia tolki biełaruskaje ale i rasiejskaje hramadzianstwa.

Prymicie, kali łaska, słowy hłybokaj pašany i ščyraj spahadnaści,

**Albin Stepowič.**

Wilnia, 10 lipnia, 1934 h.

Беларусы, заваёўвайце гаспадарчыя пляцоўкі! Тварэце свае варштаты працы!

# Чырвоная Ілавайшчына

...„Насяленьне ўсходніх краёў Польшчы было Расейскае (падкр. наша) польскія там толькі былі памешчыкі і чыноўнікі...“ (стр. 92).

...„У канцы XVI веку польскі урад у Заходняй Расеі правёў вунію“... (стр. 63).

...„У Заходняй Расеі г. зн. у тагочасным Польска-Літоўскім краю, адбывалася такое самае разьвіцьцё грашовай гаспадаркі і гандлёвага капіталу, як і ў Маскоўскай дзяржаве...“ (стр. 47),

...„У казакоў і „хлопаў“ Заходняй Расеі знайшлася свая інтэлігенцыя ў асобе гарадзкога мяшчанства...“ (стр. 63).

Вы думаеце, чытач, напэўна, што гэта выпіскі з кніжкі якога небудзь перадваенна га Ілавайскага, або іншага чорнасоценнага гісторыка? Не. Гэта так пішацца ў бальшавіцкай расейскай гісторыі. Так вучаць расейскую гісторыю беларусаў у школах Б.С.С.Р. Такую тэрміналёгію ўжываюць там, дзе прызнана „Незалежная Беларуская Савецкая Рэспубліка!“

Пададзеныя вышэй выпіскі мы ўзялі з кніжкі М. Пакроўскага, „Расейская гісторыя ў самым кароткім нарысе, з 6 расейскага выданьня пераклаў на беларускую мову К. Гарабурда“. Выданьне дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. Менск 1927 г.

У гэтай „гісторыі“ не спатк еце слова Беларусь. Яно заменена „Западной Расіяй“, а беларусы там — „Западно-Русскія“.

Што некаторыя царскія гісторыкі не прызнавалі беларускага народу, як самастойнага дзейніка ў гісторыі ўсходніх славяноў— гэта нам зразумела. Але ў С.С.С.Р., дзе прызнаецца „Незалежная Беларусь“—больш чым дзіўна.

Бальшавіцкая гісторыя Расеі напісана такой самай тэрміналёгіяй у адносінах да беларусаў, якой пісалі чарносоценныя царскія гісторыкі.

Яшчэ цікаўней, што гэта гісторыя ператлумачана на беларускую мову і выдана беларускім дзяржаўным выдавецтвам. Гэта паказвае што яе вучаць у беларускіх школах Б.С.С.Р.

Трэба ўзяць пад увагу, што кніжка гэта выдана ў 1927 г., зн. гады, калі шмат каму ў Заходняй Беларусі здавалася, што там „будуецца беларускі дом“.

Ніхто з беларусаў у БССР. не адважыўся зьвярнуць увагу на гэту „гісторыю“, баючыся аскаржэньня ў „нацдэмяўшчыне“ і падзяленьня лёсу праф. Ігнатоўскага.

Гісторыя Пакроўскага гэта адзін з шматлікіх доказаў таго, што ў Расейскім камунізьме ёсьць шмат маскоўскага захопніцтва, якога чамусьці ня хочуць зразумець некаторыя маладыя людзі ў Заходняй Беларусі, сьлепа ідучы на павадку маскоўска-бальшавіцкіх агентаў.

# Што іх найбольш непакоіць

Як і трэба было спадзявацца, пашырэньне беларускай нац.-сацыялістычнай думкі выклікала адпаведную рэакцыю сярод тых, каму ў першую чаргу залежыць на скіраваньні ўвагі грамадзянства ў такім кірунку, які можа завесьці яго толькі ў бязвыхадны тупік.

Прымітыўнасьць іхніх мэтадаў барацьбы, палягаючых на асабістых нападках і скпаненьні імёнаў паасобных грамадзян, зусім адпавядае прымітыўнасьці іхняй „ідэолёгіі“, якую яны „рэпрэзэнтуюць“.

Не ўваходзячы на гэткім грунце ў палеміку з нашымі „прыяцелямі“ мусім падкрэсьліць толькі—што найбольш іх непакоіць і гэтым самым даць магчымасьць грамадзянству хутчэй з'орыентавацца з кім яно мае дачыненьня.

„Роднаму Краю“, напр., зусім выразна не падабаецца, што наша часопісь ідэолёгічна падтрымлівае беларускую нацыянальную еднасьць, вонкавым выразам і кіруючым цэнтрам якой ёсьць Беларускі Нацыянальны Камітэт.

Крывіцца полёнафільская прэса і з тае прычыны, што ў нас быццам, „вельмі мала соцыялізму“, разумеючы пад гэтым апошнім як відаць з усяго, прапаганду бальшавіцкага лёзунгу „грабь награбленное“.

Не падабаецца наша часопісь і прыхільнікам „маладой“ соцыялістычнай думкі, каторая ня гледзючы на сваю „моладасьць“ даўно ўжо абрыдзела грамадзянству і даўно збанкрутавала пры сваім практычным застасаваньні.

„Эсэраўшчына“ з яе „дэмакратызмамі“ хаця-ж бы і пакрытая камунізуючаю лякіроўкаю, можа быць пэўнаю, што не падымецца на ногі на нашым грунце. Не ўратуе яе і тая шчырая абарона „пакрыўджаных“ у Польшчы жыдоў, за якую яны ўзяліся. Не адказваючы рэчова па сутнасьці, орган „маладой“ соцыялістычнай думкі „Золак“ называе нашы разважаньні ў жыдоўскай справе, абапёртыя на гістарычных дадзеных „гадкім антысэмітызмам“ і спадзяецца, што „беларускае грамадзянства свайго толеранцыйнага адношэньня да іншых народаў ня зьменіць.

Ня можам зразумець толькі аднаго — скуль узяліся такія оптымістычныя настроі сярод „маладых сацыялістаў“, папярэднікі якіх сваім „толеранцыйным“ устасункаваньнем да парушанай справы падгатавалі псыхолёгічны грунт да таго стану рэчаў, які вытварыўся пасьля кастрычнікавай рэвалюцыі.

Ня гледзячы на падобныя заслугі, жалезнаю бальшавіцкаю мятлою яны былі вымяцены як непатрэбны баласт і цяцер, як бачым, пачынаюць з таго, на чым збанкрутавалі.

Можам запэўніць рэдактараў „Золака“ што бел нац. сьведамае грамадзянства, шмат чаму навучанае на расейскім дасьведчаньні, ў гэтай справе думае акурат так, як і мы.

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі    Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія

Druk. K. Lewkowicza, Wilno S-to Michalska 4